


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

22 снежня 2000 года
№ 51 (296)
Цана ў розніцу 102 рублі




**Навіны рэгіёна**




## «Стандартны» Новы год

**МЯДЗЕЛ**. Сустрэць новае тысячагоддзе на Нарачы "па стандарце" абыдзецца ад 60 да 95 тысяч рублёў.

У гэтую суму ўваходзіць пражыванне (з вечара 31 снежня па раніцу 2 студзеня), харчаванне, навагоднї агеньчык. Розніца ў цане атрымліваецца толькі за лепшыя ўмовы пражывання і дадатковыя паслугі (сауна і д. т. п.).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Адміністрацыя ў ролі Дзеда Мароза

**СМАРГОНЬ**. З мэтай павышэння прафесійнага майстэрства рабочых на заводзе аптычнага станкабудавання праведзены чарговы конкурс прафесійнага майстэрства станочнікаў.

Першыя месцы ў сваіх групах занялі токар **Казімір Лесніковіч**, токар–расточнік **Валянцін Казлоўскі**, шліфоўшчык **Антон Ждановіскі**, свідравальшчык **Антон Карповіч**. Пераможцам конкурсу ўручаныя граматы і грашовыя прэміі па 15 тысяч рублёў, за 2 і 3 месцы ўручаны прэміяльныя ў памеры 10 і 7 тысяч рублёў адпаведна.

Асаблівую цікавасць ва ўдзельнікаў конкурсу выклікаў розыгрыш ганаровага прыза адміністрацыі і прафкома. Ён разыгрываўся сярод тых, хто заняў 1 месца, і ўручаны шліфоўшчыку цэха №21 А. Ждановіскаму. Гэта каляровы тэлевізар "Гарызонт". Наўрад ці чакаў станочнік такі прыз. Нават ад Дзеда Мароза.

**Павел МАКЛЮК.**

## Снежаньскія лісічкі

**АСТРАВЕЦ. Станіслаў Мізей** працуе электрыкам у раённых электрасетках. У вольны ад хатніх турбот час любіць збіраць грыбы. Найбольш спрыяльны час для гэтага хобі лета і восень, але Станіслаў даказаў некаторую памылковасць ісціны.

Мінулымі выхаднымі непадалёку ад Задворнікаў і Дравянікаў ён назбіраў амаль паўкілаграма лісічак. Цяпер многія з тамтэйшых жыхароў ці то жартам, ці то ўсур'ёз збіраюцца на Новы год па грыбы.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ **АФІЦЫЙНА**

## Перанос рабочых дзён у 2001 годзе

МІНСК. Урад прыняў пастанову аб пераносе рабочых дзён у 2001 годзе. Згодна з ёй, рабочы дзень з аўторка **2 студзеня пераносіцца на суботу 20 студзеня**. Такім чынам, навагоднія святы ў краіне будуць доўжыцца чатыры дні: 30, 31 снежня 2000 года і 1, 2 студзеня 2001 года.

Рабочыя дні пераносяцца з панядзелка **23 красавіка на суботу 21 красавіка**; з панядзелка **30 красавіка – на суботу 28 красавіка**; з панядзелка **2 ліпеня – на суботу 7 ліпеня**; з панядзелка **24 снежня – на суботу 22 снежня**.

Пасля пераносу, у адпаведнасці з пастановай урада, працоўная дня з панядзелка **31 снежня на суботу 29 снежня** з'яўляюцца тры выхадныя: навагоднія святы 30, 31 снежня і 1 студзеня 2002 года.

**Надвор'е на выхадныя**

Субота, 23 снежня

**Мінск**
-7 – -9°С (уначы)
-1 – -7°С (удзень)



**Вільня**
-8°С (уначы)
-1°С (удзень)



Нядзеля, 24 снежня

**Мінск**
-6 – -8°С (уначы)
0 – -7°С (удзень)



**Вільня**
-7°С (уначы)
0°С (удзень)





Фота IREX/ProMedia

**Гурт «Нейра-Дзюбель» у Маладзечна прыязджаў. Быў нават «хатні» канцэрт. Калі адновіцца песенны фестываль, то прыхільнікі Кулінковіча змогуць чуць яго не толькі ў Мінску.**

# Фестываль вернецца?

**МАЛАДЗЕЧНА**. Сярод маладзечанцаў усё больш размоваў пра тое, што ў горад вяртаецца вядомы песенны фестываль. На жаль, іх пакуль нішто не падмацоўвае. Справа традыцыйная – адсутнасць грошай. На сёння, напэўна, ніхто не зможа гарантаваць правядзенне ці неправядзенне "Маладзечна–2001". Хаця некаторыя адказныя асобы ў горадзе сцвярджаюць, што "быў бы адпаведны загад, а грошы знойдуцца". Яны маюць на ўвазе, што вобласць ці нават рэспубліка сродкі выдаткуюць.

Тыдзень таму дырэктар Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі **Міхась Фінберг** выклаў свой пункт погляду на працэсы, што адбываюцца ў развіцці беларускай нацыянальнай культуры. Па некаторых пазіцыях у кіраўніцтве краіны яго падтрымалі. У прыватнасці, у Маладзечне можа, усё ж такі, аднавіцца правядзенне фестывалю беларускай паэзіі і песні.

А.М. Фінберга, між тым, прызначылі членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

**Экспрэс–апытанне маладзечанцаў**

# Новы Год вы сустрэнеце з елкай?



**Вольга Філістовіч, настаўніца хіміі:**

– Елку буду ставіць абавязкова. Буду купляць натуральную – на штучную настаўніцкай зарплаты не хапае. Хаця не, елку прынясе Дзед Мароз. 1 вышыня яе будзе, якую захоча Дзед Мароз.



**Таццяна Пішчака, вучаніца 9 класа:**

– Мы ўжо купілі штучную елку. Яе вышыня 1,2 метра. На рынку ў Ждановічах такая елка каштуе каля 20 тысяч рублёў.



**Марыя Самойлава, прыбіральшчыца:**

– У нас дома стаіць штучная елка. Яе вышыня – 1,5 метра. У нас вельмі вялікі выбар цацак. Елку будзем упрыгожваць разам з унукамі.



**Віталь Скапец, вучань 9 класа:**

– Елку ставіць будзем. Паспрабуем прыдбаць натуральную, патанней, але павышэй – каля 2 метраў.



**Наталля Марцінкевіч, тэхработнік:**

– У мяне ўжо даўно ёсць штучная елка, прыкладна, 1,2 метра ў вышыню. Навешваю на яе шарыкаў і пастаўлю побач хваёвую лапку для паху.

**Фотаапытанне падрыхтавала Наташа ХАРЫТОНАВА.**

■ КАБЕЛЬНАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

# Кабельныя сеткі калектыўнага тэлевізійнага прыёму ў Маладзечне

**Доўгі час тэлебачанне ў СССР развівалася па адной схеме: некалькі цэнтральных дзяржаўных каналаў размяркоўваліся па рэгіёнах пры дапамозе сістэмы радыёрэлейных ліній, для прыёму сігналу са спадарожніка патрабавалася складаныя прыёмныя сістэмы з вялікімі парабалічнымі антэнамі. Цяпер тэхналогіі спадарожнікавага і кабельнага тэлебачання імкліва ўкараняюцца ў індустрыю тэлебачання. Адпаведна, кардынальна мяняецца і само паняцце рэтрансляцыя тэлеканалаў для спажыўца.**

Гэтай публікацыяй мы працягваем прадстаўляць чытачам "Рэгіянальнай газеты" інфармацыю пра кабельныя сеткі ў Маладзечне. На пытанні газеты адказвае дырэктар ТАА "Шанс TV" **Генадзь Лагутка.**

**— Што ж гэта такое — кабельныя сістэмы тэлевізійнага прыёму, і калі яны з'явіліся ў нашай краіне?**

— Пачатак развіцця кабельных сістэм калектыўнага тэлевізійнага прыёму можна аднесці да 50–х гадоў, калі стварылі ўстаноўкі, што дазволілі падключаць да адной антэны да некалькіх дзесяткаў тэлевізараў.

Першыя ўстаноўкі кабельных сетак, або, як мы сёння называем, сістэм кабельнага тэлебачання (СКТБ), былі разлічаныя на абслугоўванне аднаго пад'езда шматпавярховага будынка (звычайна, не больш за 10–30 абанентаў). Пазней распрацавалі тэлевізійныя дамавыя ўзмацняльнікі (канальныя і дыяпазонныя), якія пачалі шырока распаўсюджвацца. Яны дазволілі ў межах зоны абслугоўвання стварыць сістэмы для прыёму і размеркавання тэлесігналаў. Сістэма "антэна на пад'езд" паказала, што СКТБ — найбольш эфектыўны сродак пабудовы прыёмнай сеткі. Дзякуючы гэтаму, СКТБ атрымалі шырокае распаўсюджванне і хуткае развіццё ва ўсім свеце.

**— Чаму ў свой час вырашылі адмовіцца ад калектыўных антэн на пад'ездах, а пры будаўніцтве новых дамоў іх ужо амаль нідзе не ўстанаўліваюць?**

— Па меры расшырэння тэрыторыі, абслугоўваемай СКТБ ("антэна на дом" або групу дамоў), усё часцей адзначаліся выпадкі нездавальняючай якасці тэлевізійнага паказу. Прыёмны антэнны комплекс аказваўся ці ў зоне зацянення, ці ў зоне з высокай інтэнсіўнасцю пераадбітых сігналаў (што найбольш часта назіраецца ў густанаселеных гарадах).

Сітуацыя асабліва ўскладнілася ў сувязі з забудовай Маладзечна будынкамі, якія рэзка адрозніваюцца па вышыні, што прывяло да ўтварэння "паражоных зон", якія ахопліваюць цэлыя вуліцы і кварталы.

**— Што новае нясе ў сабе кабельнае тэлебачанне?**

— Найбольш эфектыўным рашэннем узніклай праблемы з'явілася стварэнне буйных сетак кабельнага тэлебачання, кожная з якіх разлічаная на абслугоўванне ад адной антэннай устаноўкі, галаўной станцыі (студыі), размешчанай са спрыяльнымі ўмовамі прыёму, некалькіх такіх абанентаў. Буйная сістэма СКТБ уяўляе сабой шыракапалосную транспартную сетку, якая мае прамы і рэверсны (зваротны) каналы інтэрактыўнага сервісу.

Прынцыповымі адрознымі асаблівасцямі буйных сістэм кабельнага тэлебачання з'яўляюцца трансляцыя вялікай колькасці тэлеканалаў (звыш за 40); выкарыстанне прафесійнага галаўнога абсталявання, частотнага дыяпазону кабельнага тэлебачання, лічбавых рэсівераў і тэхналогій, а таксама гарадскога канала ўласнай студыі. Пералічаным новае не абмяжоўваецца.

Такім чынам, для здзяйснення якаснага прыёму праграм тэлевізійнага вяшчання, а таксама прадастаўлення паслуг насельніцтву горада гарвыканкам прыняў рашэнне аб будаўніцтве буйных сістэм кабельнага тэлебачання ў Маладзечне.

**— Якая мэта і палітыка кіраўніцтва кабельных сетак горада?**

— Палітыка вяшчальнікаў у горадзе, а гэта на сёння "Шанс TV" і "Тэхнатронік", зразумелая і вытлумачальная. Пачынаючы сваю дзейнасць, гэта значыць, рэтрансляцыю тэлеканалаў, мы намагаліся максімальна зацікавіць тэлегледача, прадэманстраваць свае магчымасці, заахвоціць яго да колькасці тэлепраграм і якасці. Прычым, вядома ж, імкнемся ахапіць максімальную колькасць абанентаў—уладальнікаў тэлевізараў у падключаных дамах.

Не дзіўна, што пасля "знаёмства" з паслугамі жыхары таго мікрараёна, дзе распаўсюджваюцца праграмы многіх тэлеканалаў (якія немагчыма глядзець пры наяўнасці калектыўнай антэны), з задавальненнем заключаюць дагавор і працягваюць глядзець праграмы, што спадабаліся.

**— А тыя, хто не заключыў дагавор?**

— Тыя, хто не ўвайшоў у кола нармальных абанентаў (звычайна, гэта 1–2 кватэры ў доме), не трацяцца на аплату атрымліваемых паслуг, атрымліваючы іх "пірацкім" спосабам, г. зн., крадуць тэлесігнал. Сярод большасці абанентаў апошняе непапулярна, таму што адключэнне "махляроў—піратаў" непазбежнае, з поўнай аплатай існуючай запазычанасці. Заўважу, што трэба вельмі сур'ёзна паставіцца да біча платнага тэлевяшчання — да піратаў, бо яны ствараюць перашкоды і суседзям па паверсе. Пра меры юрыдычнага ціску на іх (што прадпрымаюцца, у прыватнасці, у Маладзечне) трэба абавязкова расказаць асобна.

З пункту гледжання "індывідуаліста", які прывык разглядаць тэлебачанне толькі як сродак задавальненя (прычым, бясплатна) сваіх "эгаістычных патрэбнасцяў у відовішчах", можна сказаць, што без дагавора глядзець яму ўжо няма чаго, за выключэннем некалькіх тэлеканалаў, якія пакуль вяшчаюцца ў метровым дыяпазоне.

У любым выпадку, абанент, падключаны да сістэмы кабельнага тэлебачання, застаецца ў выйгрышы. А вось прыкметна збяднелы (за апошнія гады) у выбары спажывец з калектыўнымі антэнамі аказаўся "за бортам". Па—першае, усе цікавыя тэлеканалы не транслююцца ў метровым дыяпазоне. Па—другое, купля індывідуальных спадарожнікавых антэн абыходзіцца вельмі дорага. На жаль, і я жыву ў доме з калектыўнай антэнай, якая ляжыць на даху.

**— Што рабіць жыхарам такіх дамоў, якіх у горадзе яшчэ шмат?**

— Даводзіцца спадзявацца толькі на сілы і майстэрства работнікаў кабельных сетак "Шанс TV", "Тэхнатроніка", ТВС, якія, магчыма, калі—небудзь атрымаюць дазвол гарвыканкома на падключэнне гэтых раёнаў і эфектыўную рэтрансляцыю тэлеканалаў у іх. Патрэбныя і вялікія грошы, якіх, на жаль, пакуль няма.

**Падрыхтаваў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 14 снежня | 21 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 1157,00 руб. | **1176,00** руб. |
| Нямецкая марка | 517,03 руб. | **538,96** руб. |
| Літ | 289,18 руб. | **294,08** руб. |
| Расійскі рубель | 41,37 руб. | **42,06** руб. |
| Злоты | 262,98 руб. | **274,19** руб. |
| ЕЎРА | 1011,22 руб. | **1054,11** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1200 – 1220 руб. | **1200 – 1220** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 13.12 | 20.12 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 5350 | 5860 |
| Сасіскі, 1 кг | 1850 | 1850 |
| Селядзец, 1 кг | 1020 | 1100 |
| Рыс, 1 кг | 410 | 410 |
| Грэчка, 1 кг | 480 | 470 |
| Цукар, 1 кг | 555 | 560 |
| Алей, 1 л | 670 | 670 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 640 | 650 |
| Маянэз, 200 г | 210 | 220 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1200 | 1200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 380 | 400 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 360 | 360 |
| Лімоны, 1 кг | 1200 | 1230 |
| Апельсіны, 1 кг | 770 | 750 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 140 | 120 |
| Капуста, 1 кг | 80 | 100 |
| Хурма, 1 кг | 800 | 800 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 850 | 800 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 850 | 800 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 800 | 800 |
| Бульба, вялікае вядро | 600 | 600 |
| Морква, 1 кг | 130 | 130 |
| Яблыкі, 1 кг | 350 | 350 |

■ КНІГІ

# Невялікая раскоша – чытаць кнігі за грошы

**ВАЛОЖЫН. Восем відаў платных паслуг пачала аказваць сваім наведвальнікам раённая бібліятэка. Дырэктар гаворыць, што ні ў якім разе не будуць ушчэмленыя правы чытачоў.**

Ствараецца камерцыйны кніжны фонд, дзе збяруць папулярныя і чытальныя на сённяшні дзень выданні – 30 кніг. Суткі эксплуатацыі будуць каштаваць 50 рублёў. За грошы, атрыманыя такім чынам, фонд будзе папаўняцца.

За даволі нізкую плату можна браць на выхадны для бібліятэкі дзень, а таксама з закрыцця да адкрыцця (на ноч) літаратуру з чытальнай залы. Платным стане і карыстанне кнігамі, якія выпісваюцца па міжбібліятэчным абанеменце, калі іх выдадуць на дом.

Акажуць за грошы і такія паслугі, як складанне бібліяграфічнага спісу літаратуры, набор тэксту на камп'ютэры і некаторыя іншыя. Кашалёк моцна не пацерпіць, а вось настаўнікам, школьнікам, студэнтам гэта будзе дарэчы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

## Працуем на склады

**СМАРГОНЬ. Сёлета недададзена прадукцыі на 1 мільярд 213 мільёнаў рублёў. Гэта прамыя страты бюджэту каля 220 мільёнаў рублёў.**

Працягваюць назапашвацца запасы гатовай прадукцыі на складах прамысловых прадпрыемстваў. У першую чаргу, гэта ЗАС і агрэгатны завод. Запасы прадукцыі на пачатак года складалі 419 мільёнаў рублёў. На 1 снежня яны дасягнулі 1 мільярда 108 мільёнаў рублёў.

**Павел МАКЛЮК.**

## Елачны кірмаш

**АСТРАВЕЦ. Тут пачалася распрадажа навагодніх елак.**

Лясную прыгажуню з водарам смалы і свежай хвоі, вышынёй да метра, можна купіць за 629 рублёў, большае дрэва каштуе 866 рублёў.

Сёлета елкі можна набыць свабодна. Распрадажа іх пачалася яшчэ ў аўторак і будзе працягвацца літаральна да Новага года.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

## Папулярны, бо недарагі

**ВАЛОЖЫН. Фірменны магазін "Даярушка", што адкрыўся нядаўна, – другі ў горадзе ад прадпрыемства ААТ "Валожынскі масласырзавод".**

На мінулым тыдні паступіў у продаж новы від прадукцыі – кефелін (нешта сярэдняе паміж кефірам і яшчэ нечым кісламалочным). Ён вельмі папулярны, бо недарагі. Разыходзіцца імгненна.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Магазін для бедных

**АСТРАВЕЦ. Тыдзень, як тут працуе магазін сістэмы "Second hand" – продаж таннага адзення. Яно завозіцца з Еўропы, у асноўным, з Англіі і Германіі. Гандаль ліцэнзаваны, чаго, напрыклад, няма ў нашых "камісіёнках".**

Магазін арандуе пакой у мясцовым Доме быту. У асартыменце не толькі адзенне, але і абутак, галантарэя, пасцель. Перад святамі – з 20 па 31 снежня – аб'яўленая пераднавагодняя распрадажа з 30% скідкай.

З улікам бядацкага стану большасці насельніцтва раёна, можна сцвярджаць, што такі магазін – не лішні ў Астраўцы.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

■ СПАЖЫВЕЦ

# Не заўсёды праўда пакупніка

**МАЛАДЗЕЧНА. З 10 пакупнікоў электратэхнічных тавараў прыкладна адзін (!) цікавіцца тым, што ён купляе. Большая частка людзей цікавяцца толькі цаной і знешнім выглядам электрапрыбораў. Такі падыход да набыцця тавараў працяглага выкарыстання ў выніку прыводзіць да фінансавых страт, нервовых перагрузак. Усе электрабытавыя тавары павінны валодаць наступнымі асноўнымі якасцямі: эфектыўнасць у рабоце; зручнасць у кіраванні; бяспечнасць для здароўя.**

Любы электрапрыбор можа ўяўляць сабой небяспеку для здароўя, асабліва калі ён зроблены не ў заводскіх умовах. Асаблівую небяспеку ўяўляюць сабой печы СВЧ; апараты, якія маюць у сваім складзе лазерны прайгравальнік, радыётэлефоны, калі яны не з'яўляюцца "фірменнымі".

Многія людзі робяць памылкі пры куплі, не звяртаючы ўвагу на першае правіла спажыўца: купляй толькі тое, што ведаеш. На жаль, у нашым рэгіёне няма сапраўднага "фірменнага" магазіна электрабытавых тавараў імпартнай вытворчасці. Вельмі часта спажыўцам прапануецца тавар, які не мае ніякіх адносінаў да вядомых фірмаў, хаця носіць адпаведны "лейбл". Падробкі пад вядомыя маркі могуць быць груба выкананыя, а могуць быць і па—майстэрску зробленыя. Ды і сапраўдныя "фірменныя" тавары могуць быць нездавальняючай, добрай ці выдатнай якасці. Прычым, у кожнай фірмы ёсць моцныя і слабыя бакі. Сярод прадаўцоў ёсць такія лоўкія словаблуды, якія здольныя размаляваць "перавагі" дапатопнага прыбора, быццам гэта апошняе дасягненне ў тэхніцы.

У некаторых развітых краінах ёсць арганізацыі, якія тэсціруюць электрапрыборы, правяраюць іх адпаведнасць заяўленым параметрам, патрабаванням бяспекі. У Маладзечне ёсць людзі, якія валодаюць вялікім банкам унікальнай інфармацыі пра якасць электрабытавой тэхнікі. Крыніцы гэтай інфармацыі – незалежныя арганізацыі розных краін, якія ніякімі стасункамі не звязаныя з фірмамі—вытворцамі. Усе зацікаўленыя могуць атрымаць інфармацыю пра якасць электрабытавых прыбораў, дапамогу ў набыцці сапраўднай "фірменнай" электратэхнікі, пастаянна ўдзельнічаць у семінарах на тэмы якасці бытавых электрапрыбораў.

**Алег ЯХІМОВІЧ.**

Запіс для ўдзелу ў семінары па тэл. у Маладзечне **3–25–32** (19.00–22.00).



Пакуль бацькі адпачываюць, дзеці і застаюцца ў адзіноце. Фота Юрыя КАРПЦКАГА.

■ ВЫХАВАННЕ

# Паспрабуйце зазірнуць у вочы адзіноце

**СМАРГОНЬ. Вы бачылі калі–небудзь вочы адзіноты? Журботныя, бездапаможныя, сумныя, яны глядзяць у тваю душу, прабіваючы яе навылёт, наскрозь пранізваючы сваім невыказным болем і нейкім нямым дакорам. У іх чытаецца маўклівае пытанне: Чаму? Хто дапаможа? І думкі блытаюцца, і робіцца ў нейкай ступені нават сорамна і нёмка перад гэтымі вачыма за сваю ўладкаванасць, і ты глядзіш у іх сваімі без віны вінаватымі вачыма і адчуваеш бяссілле. Менавіта бяссілле штосьці змяніць, накіраваць, дапамагчы вечнай самастойнасці адысці назаўсёды.**

Летам мне давялося ўпершыню працаваць у аздараўленчым летніку ў Залессі. Побач з дзецьмі з добраўладкаваных сем'яў там адпачывалі і тыя, у сем'ях якіх бацькі п'юць і не даглядаюць іх. Яны розныя і ўзростам (7–14 год) і інтарэсамі і, здавалася б, нічым не вылучаліся сярод агульнай масы, але іх выдавалі вопратка, паводзіны, асабліва ж – вочы, у якіх адзінота.

Балюча было глядзець у іх. 6–гадовы Віталік невялічкага росту, знешне падобны, як дзеці казалі, на "калабка". Вельмі ціхі, ён сядзеў у куточку свайго пакоя і ўважліва сачыў, што тут, у гэтым памяшканні, куды прывёў яго бацька, будзе адбывацца ў чарговы раз. Віталік казаў, што ён не ўпершыню адпачывае ў аздараўленчым летніку.

Але гэтыя вочы... Сам лёс паставіў на іх пячатку журботы назаўсёды. І мне здаецца, што гэты маленькі хлопчык саромеецца той пячаткі, хоча схаваць яе за паказной бестурботнасцю, часам нават агрэсіўнасцю, абыякавасцю. Ён жа яшчэ маленькі і яго ўзрост не ўмее хаваць гэта, бо ён шчыра даверлівы, прагне цеплыні і пяшчоты. Як сляпенькае кацяня, якое адарвалі ад матулі, шукае проста жывую душу чалавека, з якім можна было б пагутарыць, расказаць пра сваё жыццё, свае справы, які б проста выслухаў.

Дзіву даешся, што такія малыя дзеткі, навучаныя горкім вопытам, самастойна клапоцяцца пра сябе і маюць пэўную жыццёвую мудрасць. У іх, зразумела, ёсць свае выхавальнікі, але (баюся пакрыўдзіць іх, бо цяжка працаваць з такімі выхаванцамі) водгукі дзяцей пра іх не самыя лепшыя. Вядома, якія б ні былі маці ці бацька, ніхто не можа замяніць іх.

Хіба дзіця вінаватае ў тым, што пры нараджэнні на свет разам з небам, сонцам, паветрам і іншымі натуральнымі з'явамі яно не атрымлівае пяшчотную, ласкавую маці? І хто вінаваты ў тым? Хворае грамадства ці лёс? Банальная ісціна: сын не нясе адказнасці за бацьку, які брудны і нецвярозы прыходзіць да яго і прыносіць "салодкую цукерку". Ведаем жа, але як знішчыць стэрэатып? Ці маем мы маральнае права папракаць у чымсьці гэтых дзяцей? А ім каго папракаць? Гэтых бацькоў?

Сэрца сціскалася, калі слухала гэтага хлапчука:

– У мяне яшчэ два браты. Меншаму – чатыры. Мамка не можа хадзіць, бо яна ў інваліднай калясцы, і татка сварыцца на яе за тое, што яна п'е.

Бацька, калі маці яшчэ магла хадзіць, утрымліваўся ад п'янак, а калі маці звалілася з чатырохпавярховага дома, пачаў шмат піць. Яму было ўжо нічога і ніхто не патрэбны. Ні дзеці, ні іх маці.

Мне было брыдка, агідна і сорамна за гэтага ўжо немаладога і чужога мне чалавека, які прыходзіў да хлопчыка.

Віталік яшчэ доўга расказваў пра сваё жыццё ў хаце, што ён рыхтуецца да школы, пра сваіх братоў, пра дзядулю. І гаварыў усё з горкай усмешкай на твары. Ад гэтага рабілася ніякавата і яшчэ больш балюча.

Аднойчы была дыскатэка. У прыцемках я выразна разгледзела хлопчыка, які сядзеў у кутку ля ўвахода ў памяшканне, і плакаў. Гэта быў Віталік.

– Што зрабілася?

– У мяне грошы прапалі, – адказаў хлопчык нізкім голасам і паглядзеў на мяне, як загнанае ваўчаня.

Яго словы сталі паміж намі нябачнай сцяной. У яго голасе я пачула дакор ці, можа, папрок, а галоўнае – несуцяшальны смутак. Знікла ўсякае жаданне, патрэба, звязаныя з маім прызначэннем выхавальніка ў гэтым летніку. Чаму ў гэтага хлапчука? Хто?

Віталік прызнаўся, што бацька на цукеркі даў грошай, бо ў хлапчукоў і дзяўчынак іх шмат, але ён гэтыя грошы пакідаў для маці.

Мне захацелася пашкадаваць гэтае дзіця, штосьці зрабіць – не ведаю, што (зноў тое ж ненавіснае бяссілле), каб наступны раз гэтага не было. Вельмі цяжка было на душы. Гэтыя допыты з дзецьмі, хто браў грошы.

Як цяжка, балюча за дзіцячыя душы! Я дапамагла яму з грашыма, але сама доўга не магла ўпарадкаваць свае думкі. Ці заменяць тыя грошы маці, бацьку? Пытанне рытарычнае.

Як шкада, што чалавек такі. Ён не можа да канца адчуць боль іншага чалавека.

**Святлана КОДЗЬ,**

**Залессе.**

**Для даведкі.** У Залескім сацыяльна–педагагічным комплексе вучыцца 256 дзяцей. У класах ёсць дзеці, якія маюць такі ж стан у сям'і, як і ў згаданага Віталіка. Прыкладна 1/4 частка дзяцей, у якіх бацькі матэрыяльна незабяспечаныя і таксама ўжываюць гарэлку.

Сярод дзяцей малодшага ўзросту ёсць такія (прыблізная іх колькасць складае па школе каля 30 чалавек), якія не ведаюць, што трэба раніцой снедаць, што ёсць на свеце падарункі, што маці павінна дапамагчы падрыхтавацца да заняткаў.

# Правы чалавека

## Матэрыялы Маладзечанскага аддзялення РГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт»

**Амаль год, як у Маладзечне пачало дзейнічаць аддзяленне «Беларускага Хельсінкскага Камітэта». Гэтая старонка будзе паведамляць аб стане выканання правоў чалавека ў нашым рэгіёне. Акрамя таго, будуць друкавацца кансультацыі юрыстаў, адказы на вашыя пытанні.**

Што такое Беларускі Хельсінкскі Камітэт?

Беларускі Хельсінкскі Камітэт (БХК) зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі ў лістападзе 1995 года як добраахвотная, незалежная, непалітычная праваабарончая Рэспубліканская грамадская арганізацыя. БХК не дзяржаўная і некамерцыйная арганізацыя. Яна існуе за кошт добраахвотных ахвяраванняў і іншых паступленняў, не забароненых дзеючым заканадаўствам. Суадносна са статутам, яе галоўная мэта – «абарона ў Беларусі правоў чалавека, дэклараваных Хельсінкскімі пагадненнямі, іншымі міжнароднымі дамоўленасцямі па правах чалавека».

На гэты момант сябрамі БХК з'яўляюцца звыш за 450 чалавек, сярод якіх навукоўцы, пісьменнікі, дактары, журналісты, юрысты і г. д., многіх з якіх ведаюць не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Акрамя таго, камітэт аб'ядноўвае прадстаўнікоў некаторых грамадскіх арганізацый (Беларускі ПЕН-цэнтр, Беларуская Асацыяцыя Журналістаў), шэрагу партый (Беларускі Народны Фронт, Сацыял-дэмакратычная Грамада, Аб'яднаная Грамадзянская Партыя).

Некаторыя грамадскія арганізацыі ўваходзяць у склад БХК на правах асацыіраваных сяброў (Беларускае таварыства прыхільнікаў агульначалавечых каштоўнасцяў, Гродзенскае гарадское аб'яднанне»Ратуша», Гомельскі Саюз абароны правоў чалавека і інш.).

**Чым займаецца БХК**

Асноўнымі напрамкамі дзейнасці Беларускага Хельсінкскага Камітэта з'яўляюцца:

– інфармаванне беларускага і замежнага грамадства аб разнастайных парушэннях у забеспячэнні правоў і свабод асобы ў рэспубліцы;

– прапаганда міжнародных дакументаў па правах чалавека;

– абарона правоў фізічных і юрыдычных асоб, якія звяртаюцца за дапамогай у БХК;

– аналіз існуючага заканадаўства, яго адпаведнасці асноўным міжнародным стандартам і прынцыпам.

Каб выканаць гэтыя задачы, БХК ажыццяўляе шэраг розных мерапрыемстваў. У першую чаргу, гэта падрыхтоўка дакладаў, справаздач, артыкулаў на тэмы выканання нацыянальнага заканадаўства і міжнародных пагадненняў па правах чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Каб звярнуць увагу сусветнай гармадскасці на падзеі, якія прывялі да масавых парушэнняў правоў чалавека ў рэспубліцы, Камітэт прымае разнастайныя заявы і звароты. Усе матэрыялы распаўсюджваюцца як у краіне, праз незалежныя сродкі масавай інфармацыі, так і за мяжой. З мэтай забеспячэння магчымага кантролю і атрымання незалежнай інфармацыі, БХК накіроўвае сваіх назіральнікаў на мітынгі, шэсці, акцыі пратэсту.

*Каб звярнуць увагу грамадскасці на праблемы, звязаныя з забеспячэннем асноўных правоў і свабод чалавека, БХК арганізуе семінары, круглыя сталы, канферэнцыі.*

Немалаважнай задачай Камітэта з'яўляецца дапамога канкрэтным людзям. Арганізацыя мае права прадстаўляць і абараняць у судах, дзяржаўных, гаспадарчых і грамадскіх органах і арганізацыях асоб, якія лічаць, што іх правы парушаныя. У грамадскую прыёмную, створаную пры БХК, звяртаюцца грамадзяне, многія з якіх прайшлі не адну інстанцыю, у тым ліку, Вярхоўны Суд рэспублікі і Адміністрацыю прэзідэнта. Яны атрымліваюць бясплатную юрыдычную кансультацыю. Па меры магчымасці, Камітэт накіроўвае сваіх прадстаўнікоў для ўдзелу ў судовых працэсах у якасці незалежных назіральнікаў.

Пры БХК створаныя і дзейнічаюць 10 пастаянных камісій: свабоды слова і друку, грамадзянскіх і палітычных правоў, па правах дзяцей, па праблемах ваеннаслужачых, пенітэнцыярная, па правах жанчын, свабоды веравызнання, лінгвістычная, па пытаннях палітычных рэпрэсій, па пытаннях працы. Калі неабходна, для аператыўнага збору і аналізу інфармацыі, расследавання падзей, звязаных з масавымі парушэннямі правоў чалавека ў рэспубліцы, ствараюцца часовыя камісіі.

БХК падтрымлівае кантакты з нацыянальнымі Хельсінкскімі Камітэтамі і іншымі праваабарончымі арганізацыямі шэрагу краін – Польшчы, Даніі, Галандыі, Нарвегіі. Таксама Камітэт супрацоўнічае з Прадстаўніцтвам ААН у Рэспубліцы Беларусь. Галоўная мэта БХК - абарона ў Беларусі правоў чалавека, гарантаваных законамі і Канстытуцыяй РБ, дэклараваных Хельсінкскімі пагадненнямі, іншымі міжнароднымі дагаворамі аб правах чалавека, інфармаванне грамадскасці аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі і свеце.

**Маладзечанскае аддзяленне БХК**

У склад аддзялення, створанага 25 студзеня, ўваходзяць 17 чалавек (старшыня аддзялення - **Эдуард Баланчук**). Прыём грамадзян: аўторак, чацвер з 10 да 17 гадзін (папярэдні запіс штодзённа па рабочых днях). Аддзяленне мае прадстаўніцтвы ў Мядзеле і Вілейцы (па Мінскай вобласці), ў Смаргоні, Ашмянах (па Гродзенскай вобл.).

**Адрасы і тэлефоны аддзялення і прадстаўніцтваў:**

У Маладзечне:
вул. Прытыцкага, 18, тэл.: 7-48-09
(e-mail: bhc-molodechno@mail.ru
http://bhcmld.bizland.com/).

У Вілейцы:
вул. 17 Верасня, 28-41, тэл.: 5-49-60.

У Мядзеле:
вул. 17 Верасня, 16-12, тэл.: 5-51-38.

У Смаргоні:
вул. Юбілейная, 9-20, тэл.: 3-27-88 (папярэдні запіс).

У Ашмянах:
вул. М. Горкага, 7, тэл.: 3-43-74.

■ СУДЫ

# Пенсіянер аказаўся невінаваты

МАЛАДЗЕЧНА. Напачатку снежня ў гарадскім судзе разглядалася справа **Тадэвуша Шусціцкага**, якога 9 кастрычніка затрымалі за распаўсюджванне ўлётак. Адміністрацыйная камісія гарвыканкома аштрафавала яго на 3600 руб. Пенсіянеру ставілася ў віну «...распаўсюджванне друкаваных выданняў, выробленых з парушэннем устаноўленага парадку без выпускных дадзеных, змест якіх накіраваны на нанясенне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам, і законным інтэрэсам грамадзян».

Цалкам нязгодны з гэтым рашэннем, Т. Шусціцкі вырашыў абскардзіць яго праз суд. Калі роўна а 10–й гадзіне ён прыйшоў на пасяджэнне, то ніякага адказу на сваю скаргу не атрымаў. Прадстаўнік гарвыканкома спазніўся амаль на гадзіну і з'явіўся непадрыхтаваным, таму суддзя Яўген Казлоў быў вымушаны перанесці паседжанне.

На другім пасяджэнні суддзя адмяніў рашэнне адміністрацыйнай камісіі з-за адсутнасці складу правапарушэння ў дзеяннях пенсіянера і накіраваў усе дакументы назад. І сам Шусціцкі, і **Эдуард Баланчук**, які быў яго грамадскім абаронцам у судзе, натуральна, засталіся задаволеныя такім рашэннем.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Справа аднаго міліцыянера

МАЛАДЗЕЧНА. Адбылося пасяджэнне гарадскога суда па крымінальнай справе старшыны міліцыі А. Барысевіча. Улетку гэты ахоўнік парадку цяжка збіў жыхара горада, які трапіў у медвыцвярэзнік. У выніку збіцця пацярпеламу выдалілі селязёнку. Каб не своечасовая медыцынская дапамога, грамадзянін мог бы і памерці.

Рашэннем суда, былога старшыну міліцыі асудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі. Хаця са словаў пацярпелага, яго збіваў не адзін Барысевіч.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

